ЗНО
ЛІТАРАТУРНА-ФІЛАСОФСКІ СШЫТАК
ЗНО 9



Алесь АНЦІПЕНКА

# ЭТНАС, НАЦЫЯ, НАЦЫЯНАЛЬНАЯ САМАСВЯДОМАСЦЬ

(да вызначэння падставовых паняццяў)





Этнас і нацыя не з'яўляюцца тоеснымі паняццямі. Розніца паміж імі палягае ў спосабах іх самаарганізацыі, інтэнсіўнасці абменных працэсаў, змесце і формах узаемастасункаў з навакольным асяродкам, у якім адбываецца працяканне працэсаў жыццядзейнасці этнічных ці нацыянальных утварэнняў.

Калі на першапачатковых этапах свайго ўзнікнення і развіцця этнас — з'ява перш за ўсё *прыродна*-сацыяльная ці, дакладней, прыродна-культурная, то нацыя — гэта ўжо такое ўтварэнне, у якім сацыяльныя сувязі і сацыяльнаўтваральныя працэсы набываюць самагоднае значэнне. Этнас — у пэўнай меры працяг таго спосабу самаарганізацыі, які ўзнікае на папуляцыйным узроўні ў біялагічных сістэмах. Больш таго, гэты працяг нават усведамляецца ў выглядзе існавання татэмнай формы свядомасці. Дамінантай, вакол якой адбываецца першасная самаарганізацыя этнасу, якраз і з'яўляецца прыроднае асяроддзе, у якім ён мусіць наладжваць сваю жыццядзейнасць. Менавіта гэтым асяроддзем будуць вызначацца на працягу даволі значнага перыяду часу спосабы яго жыццядзейнасці, г.зн. спосабы здабывання ежы, самазахавання і г.д. Разнастайнасць прыродных асяродкаў, у якіх адбываліся працэсы першаснай самаарганізацыі людзей, з'яўляецца адпаведна адной з прычынаў узнікнення непадобных этнасаў, і, як іхні працяг, розных нацыянальных утварэнняў.

Істотным фактарам фармавання этнасаў з'яўляецца наяўнасць пэўных прыродных межаў, у якіх адбываюцца працэсы этнагенезу. Гэтыя межы могуць супадаць з межамі розных біягеацэнозаў, экалагічных сістэм, кліматычных зонаў ці проста ўтварацца буйнымі рэкамі, непраходнымі балотамі ці гарамі. Наяўнасць адносна замкнёнай экалагічнай прасторы ёсць адной з неабходных этнагенезісных працэсаў. Чым у больш замкнёнай прасторы знаходзіцца этнас, тым больш інтэнсіўна адбываюцца ў ёй працэсы этнагенезу, тым больш адметныя рысы набывае гэты працэс і тым больш адметнай з'яўляецца выпрацаваная ім культура. Пры сутыкненні з іншымі этнасамі выпрацаваныя адметнасці дазваляюць лёгка самаідэнтыфікавацца прадстаўнікам менавіта гэтых этнасаў. І адпаведна наадварот, там, дзе этнічная прастора аказалася разамкнёнай, этнагенезісныя працэсы характарызаваліся няўстойлівасцю і недастатковай акрэсленасцю. Знешнія ўплывы перашкаджалі фармаванню этнацэнтрычных працэсаў, у пэўнай меры размывалі іх, замянялі ўтварэнню ўстойлівых сувязяў.

Этнасы, якія аказваліся ў такіх (неспрыяльных) умовах, ці наогул падпадалі пад працэсы іншаэтнічнай асіміляцыі, ці іхняе развіццё аказвалася запозненым. Дарэчы адзначыць, што менавіта ў такіх неспрыяльных умовах працякалі працэсы этнагенезу беларусаў.

Адзначаныя вышэй знешнія фактары не з'яўляюцца адзіна вызначальнымі. Знаходзячыся ў пэўных экалагічных варунках, этнас як самаактыўная сістэма імкнецца да таго, каб «упісацца» ў прыроднае асяроддзе і тым самым забяспечыць сваё выжыванне. Культура як механізм адаптацыі якраз і ёсць вынікам гэтага памкнення. Пытанне адносна таго, якім чынам на месцы папуляцыйна-біялагічных формаў адаптацыі ўзнікаюць этнакультурныя і з чым звязаны гэты пераход, з'яўляецца даволі складаным. І мы не будзем яго тут абмяркоўваць. Адзначым толькі тое, што этнакультурныя формы адаптацыі з'яўляюцца формамі ў вышэйшай ступені экалагічна мэтазгоднымі, і яны істотна пашыраюць магчымасці самавыжывання этнасаў. Генетычна звязаная з неабходнасцю самавыжывання, «прымітыўная» этнічная культура з'яўляецца культурай пераважна функцыянальнай, г.зн., што нават яе рытуальна-культавы бок мае практычнае прызначэнне. Рытуальна-культавая падсістэма этнічнай культуры перадусім выконвае функцыю арганізуючага ці самаарганізуючага пачатку ў жыццядзейнасці этнасу. Яна з'яўляецца першаснай формай групавой, калектыўнай свядомасці. Гэта і своеасаблівы пускавы механізм узгодненай калектыўнай дзейнасці, скіраванай на забеспячэнне супольнай дзейнасці, неабходнасць якой вынікае з немагчымасці індывідуальнага выжывання.

Развіццё рытуальна-культавай падсістэмы — адзін з істотных фактараў аб'яднання першасных этнічных груповак. Калі прымітыўныя формы рытуальна-культавай падсістэмы выступалі ў якасці аб'ядноўваючага фактару вакол нейкай супольнай, сумеснай дзейнасці, то развітая сістэма паганства, якая, уласна кажучы, ёсць апошняй этнічнай формай свядомасці і часткова самасвядомасці, ёсць аб'ядноўваючым фактарам па прыкмеце не супольнай, а падобнай, аднатыпнай дзейнасці. Яна перад усім адлюстроўвае агульнасць спосабаў жыццядзейнасці ў межах экалагічна адметнай прасторы ці тэрыторыі. Гэта падабенства ў спосабах жыццядзейнасці ці нават іхняя агульнасць з'яўляецца неабходнай умовай давяршэння этнагенезіснага працэсу. Агульнасцю і аднатыпнасцю спосабаў жыццядзейнасці вызначаюцца скрайнія межы этнагенезіснага працэсу.

Разам з тым неабходна адзначыць, што культава-рытуальная падсістэма этнасу — гэта і своеасаблівы механізм, для функцыянавання якога характэрна наяўнасць двух рэжымаў — пасіўнага і актыўнага. У рэжыме свайго пасіўнага функцыянавання гэтая падсістэма дэманструе адсутнасць істотных супярэчнасцяў паміж рознымі сегментамі нараджаючагася этнасу.

Пры наяўнасці знешняй пагрозы жыццядзейнасці этнасу і яго тэрыторыі яна спрацоўвае ў сваім актыўным рэжыме, паказваючы на існаванне ўжо дасягнутай этнасам пэўнай ступені яго гамагеннасці. Наогул жа існаванне знешняй пагрозы жыццядзейнасці этнасу з'яўляецца фактарам унутрыэтнічнай кансалідацыі, пры ўмове, зразумела, што гэтая знешняя пагроза не прыводзіць да разбурэння этнасу, яго фізічнага вынішчэння ці асіміляцыі ў выніку яго гвалтоўнага падпарадкавання больш моцнаму этнасу.

Істотным этнасахарактарызуючым фактарам з'яўляецца таксама «прывязка» этнасу да пэўнай сістэмы *часавай* арганізацыі яго жыццядзейнасці. У дадзеным выпадку мы маем на ўвазе яго ўпісанасць у пэўную сістэму розных біялагічных рытмаў і падпарадкаванасць ім. Гэтая ўпісанасць і залежнасць адлюстроўваюцца, як правіла, у календары розных гадавых і сезонных святаў, у паслядоўнасці розных відаў працы, наогул у пэўнай рытмізаванасці жыцця. Аднак найбольш істотным момантам тут з'яўляецца не тое, што пэўны *хранатып** заўсёды адбіваецца ў культава-рытуальнай падсістэме этнасу, а тое, што ён фіксуецца на псіха-фізіялагічным узроўні, г.зн., што большасць ці ў ідэале ўсе прадстаўнікі дадзенага этнасу характарызуюцца прыкладна аднолькавым тыпам нормы псіхафізіялагічнай рэакцыі на тое асяроддзе, у якім яны жывуць. На больш высокіх узроўнях можна гаварыць пра аднатыпнасць нормы эмацыйнай рэакцыі ў большасці ці ва ўсіх прадстаўнікоў дадзенага этнасу, пра пэўны нацыянальны тэмперамент. Унікальнасць выпрацаванага хранатыпу робіць кожны этнас унікальным утварэннем.

У той меры, у якой хранатып існуе як пэўны тып нормы эмацыйнай рэакцыі, ён з'яўляецца базіснай ці падставовай семантычнай структурай этнасу. На гэтай структуры пазней узнікае Нацыянальны тэкст. Невыпадкова, што першыя Нацыянальныя тэксты — гэта тэксты паэтычныя, невыпадкова, бо «бацькамі» нацыі звычайна з'яўляюцца паэты. Гэта тлумачыцца, папершае, тым, што паэтычная форма і рытмізаваны паэтычны тэкст з'яўляюцца найбольш адэкватнымі сродкамі распазнання і фіксавання хранатыпу дадзенага этнасу, а па-другое, тым, што паэты і ёсць тымі найбольш чуйнымі людзьмі, здольнымі ў слове і праз слова спасцігнуць, змадэляваць і зафіксаваць у тэксце хранатып этнасу ва ўсёй яго адметнасці і унікальнасці.

*(Працяг на стар. 6)*

Дыскурс

Валянцін АКУДОВІЧ

# ГОРАД, ЯКОГА НЯМА

ЭСЭ



Не было, каб чуў ад некага: люблю Мінск. Не чуў нават ад таго, хто тут нарадзіўся і асталеў, хаця «...люди игде зродилисы и ускорылены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають».

Не бачна «вялікай ласкі», але, бывае, гавораць: падабаецца гэтае места, і далей тлумачаць словамі, якія аднолькава пасуюць да горада, тэмпераменту, гатунку цыгарэт...

Калі не блытаць трансцэндэнтнае «люблю» са звычаёвым «падабаецца», то мусім пагадзіцца, што Мінск сапраўды амаль не палягае любові. Места, рэч, жанчыну любяць, калі імі агортваецца, прадстаўляецца нешта большае за местам, рэччу, жанчынай азначанае...

У Мінска няма гэтага большага, ён — толькі покрыва каардынаты, эклектычная крыжаванка, топас са спляжаным эйдасам, калі эйдас разумець як «цела душы». З апошняга вынікае, што Мінск будзе зручна прачытаць як рэальнасць постмадэрнізму. Але мы гэтую магчымасць пакінем іншым, запыніўшы сябе хіба вось на чым.

Парыж ці Вільня, Лондан або Санкт-Пецярбург маюць пачатак (сярэдзіну, цэнтр), якім пазначаны прасторавы і паэтычны міт горада (Эйфелева вежа, гара Гедыміна, Біг-Бен, Ісакіеўскі сабор). Мінск пазбаўлены ўцэнтраванага ў структуру прасторы сымбалічнага міта, паэтычнай дамінанты, сярэдзіны самога сябе...

Мінск — горад не толькі без душы, але і без сэрца. На пытанне, дзе тухкае сэрца Мінска, магчымы толькі адзін адказ:

— Ува мне.

Мінск — гэта «Я». Так мусіць сказаць кожны тутэйшы месціч, нават калі яго абражае ўсялякая праява эгацэнтрызму. Без гэтага «Я» Мінск — пустэльня, выпаленае ляда, выган на ўскрайку зніклага селішча...

Сэнс Мінска запачаткаваны на маім жаданні быць тут, ягонае значэнне акрэслена магчымасцю атуліць мяне ад скразнякоў бязмежжа. Я цягаю яго на сабе, як чарапаха панцыр, а калі памру, Мінск закапаюць побач, бо без мяне невядома дзеля чаго яму быць аставаццa.

Наперадзе зазначалася, што Мінск амаль немагчыма любіць, але можна вельмі моцна ўпадабаць Мінск за яго далікатную адсутнасць у тваіх інтымных стасунках з быццём.

Горад, якога няма, вызваляе ад татальнасці сваёй улады. Ён не вабіць мітамі, не пярэчыць традыцыямі, не спакушае вабнотамі, не прымушае ідэалагемамі, не забараняе забабонамі, не абцяжарвае філасафемамі, не абавязвае мэтамі... Ён пакідае цябе сам-насам і табе нічога не застаецца, як любіць тут самога сябе. У Мінску немагчыма не любіць сябе, бо няма тут нідзе іншага, акрамя тваёй адзіноты, якая далікатна адстаўляе табе каўнер на шпацыры і пяшчотна лашчыць пад покрывам ночы.

Той, хто не трывае адзіноты, кідаецца адсюль у Маскву, Парыж, Вільню — туды, дзе з чалавекам заўсёды побач *горад*, як выбаўленне панылае волі, як падстава для бясконцага дыялога, як *другі*, які ведае адказ на кожнае тваё запытанне, калі ты здолееш яго выразна сфармуляваць.

У Мінску няма каго пытацца, бо Мінск — горад для аднаго; тут кожны побач — прыкрая недарэчнасць. Пэўна, з гэтае прычыны замест дыялога тут ужываюць маналог, сэнс якога вярэдзіцца вакол апошняга: навошта я *сам сабе* патрэбен? І ці патрэбен увогуле?

Горад, якога няма і чалавек, якога можа не быць, суіснуюць на паверхні Мінска падобна задзіночанню магчымасцяў, што маюць шанец рэалізавацца адно ў кантынууме ідэальнага, які мы досыць умоўна пазначым як «Мінск без мяне»...

Рэч у тым, што акрамя Мінска, які знаходзіць сябе у маім намеры валэндацца па жарстве ягонай паверхні, ёсць Мінск без мяне, Мінск, як ідэя Мінска, якая тысячу гадоў валацугам блукала па селішчах, спрабуючы настала атабарыцца ў самых розных часава-прасторавых акалічнасцях.

Мабыць, апошняе вымагае невялікага тлумачэння. Ідэя Мінска — гэта спрадвечная мара топаса нашага краю аб выяўленым значэнні самога сябе, калі ў быційных праявах сфармулюецца і ўвасобіцца ідэальнае адлюстраванне таго сакральнага сэнсу, з якога ўзнікла наканаванне гэтай прасторы. Але сама па сабе прастора можа адно ўтрымліваць і гадаваць ідэал, а каб ён бачна паўстаў над быційнай роўняддзю дыскурсу, патрэбен цэнтр (у абычаёвай тэрміналогіі — сталіца), які б паклаўся на пачатак узросту парадыгмы значэння.

Блуканне ідэі Мінска — гэта намацванне этнанацыянальнай прасторай свайго цэнтра, росшукі сэнсатворнай сярэдзіны самога сябе, таго месца, дзе як адбітак сакральнага віхру несупынна будзе шумець вір гістарычнага быцця.

Наўрад ці хто калі даведаецца, скуль распачаўся шлях гэтай ідэі, але летапісна ён найперш быў занатаваны лёсам Рагнеды. Збудаваны для яе сына горадзень Ізяслаў быў ці не першай бачнай нам спробай вылучыць акраец быційнага значэння трансцэндэнтнай задумы.

Князь Ізяслаў пакінуў месту сваё імя і вярнуўся на айчыну маці, каб у Полацку трымаць далей дынастыю Рагвалодавічаў. Аднак ужо ягоны ўнук, шалёны Усяслаў, будзе шукаць няўважна страчанае дзедам, сягаючы па абшарах свету ад Тмутаракані да Дудутак.

Не розумам, дык чуйным звярыным нутром Усяслаў ведаў: ні княскі пасад, ні нават Сафійка не дапамогуць Полацку стацца тым месцам, дзе можа быць ускрыленай ідэя Мінска; і зноў і зноў кідаўся шукаць патрэбу. «Усяслаў... на кані паімчаўся да горада Кіева і даткнуўся дзідай да кіеўскага залатога пасада. Ад іх скочыў зверам дзікім. Апоўначы з Белгарада ахутаўся сіняй імглой, а на раніцу, узняўшыся, браму стракалам адчыніў Ноўгараду, разбіў Яраслаўлеву славу і скочыў ваўком да Нямігі з Дудутак».

Нечалавечая відушча Усяслава ўрэшце вызначыла каардынаты Нямігі... але, падобна, не ў той дзень, не ў той час прыскакаў ён на гэтыя берагі. Не было яму калі агледзецца, прыслухацца, сокалам шнырнуць у астральныя нябёсы, кратом абмацаць трывалішчы катакомбныя, каб пераканацца — Тут... Трэба было не адкладваючы кроў праліваць. «На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела. Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх».

Вялікая кроў заўсёды значыла пра невыпадковасць, абранасць таго месца, дзе яна пралілася. Толькі не прамінем іншага: берагі Нямігі «не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх». Ці не гэтая крывавая багна, ці не гэты буралом касцей на шмат стагоддзяў сталіся патаемнай прычынай забароны, рашучага табу на здзяйсненне ідэі Мінска там, дзе ёй было наканавана здзейсніцца?

Увогуле я скептычна стаўлюся да містыкі і таму не маю намеру разгортваць гэтую, выпадкова ўзнікшую тэзу. Аднак, разам з тым, не магу зусім пазбегнуць думкі аб нейкай ірацыянальнасці таго, што далей будзе адбывацца з Мінскам: на працягу стагоддзяў у ягонай ролі паспрабуюць сябе не толькі Полацак, Навагрудак, Вільня, але, у пэўным сэнсе, Крэва, Берасце, Горадня, Смаленск... ды шмат хто яшчэ... і толькі Менск не выкажа аніякага жадання пачуць голас наканавання, што гучаў побач. Менск стаіўся ў марудзе штодзённых турбот, і нават статус губернскага горада Расейскай імперыі не вызваліў яго ад звыклай перасцярогі да магчымасці незнарок вытыркнуцца з роўні абычайнасці. Ужо ў XX стагоддзі, калі яму відавочна не было куды падзецца ад неабходнасці вызначыць інтэграл беларускага шляху, ён паспрабуе ўхіліцца гэтай мітрэнгі на карысць Вільні, Смаленска, Віцебска, Горадні і нават Магілёва (дзе на ўсялякі выпадак быў збудаваны другі Дом Урада).

Такое ўпартае не-хаценне магло б сведчыць пра неадпаведнасць места той місіі, што на яго ўскладаецца, каб не ўвесь папярэдні гістарычны вопыт, які люструе марнасць намаганняў іншых вылучыцца ў гэтай якасці. Здаецца, пытанне паўстала рубам: альбо Мінск, альбо — ніхто.

Няўдалыя спробы каго б там ні было раней спраўдзіць ідэю Мінска, пэўна, можна растлумачыць на грунце розных падстаў: містычнай (наканаванне), гістарычнай (логіка падзей), дыялектычнай (перманентнае адпрэчванне), адной з культуралагічных (смерць пасіянарнасці) і другой (смерць культуры), а да таго ж эканамічнай, палітычнай і г.д. Запрапануем у суплёт да іх версію белетрыстычна-геаграфічную... Полацак, Вільня, Горадня, Смаленск... не маглі настала замацавацца ў якасці «лігітымнага» прадстаўніка гэтай прасторы таму, што знаходзілі сябе на перыметры этнаграфічнага дыскурсу; яны намагаліся стацца цэнтрам, уладкаваўшы сабе месцішча на мяжы, ускрай абшару бытавання этнасу. З чаго замест гарманізацыі той прасторы, ад імя якой яны выступалі, атрымлівалася яе дэфармацыя, сцягванне цэнтра з належнага яму месца на перыферыю, амаль у замежжа. Таму натуральна, што гэтыя квазі-цэнтры цягам бытавання выяўлялі не экзістэнцыю прыналежнага да іх абшару, а морак нічыйнай мяжы.

Можа падацца нават дзіўным, але гэта, падобна, так: наш край ніколі не меў цэнтра ("сталіцы"). Тыя месты, што ім пазначаліся, сутнасна, ды і *з-местам*, амаль не палягалі за меру намінатыўнага, аб чым, акрамя іншага, сведчыць надзвычай важкая роля беларускага мястэчка ў кожную гістарычную пару. Феномен беларускага мястэчка пэўна і тлумачыцца тым, што ў нас мястэчку трэба было браць да выканан-

## ЭТНАС, НАЦЫЯ, НАЦЫЯНАЛЬНАЯ САМАСВЯДОМАСЦЬ

### (да вызначэння падставовых паняццяў)

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

Невыпадкова і тое, што пры асіміляцыі аднаго этнасу другім ці адной нацыі другой, апошнімі паміраюць песня і танец. У сваім самым агульным выглядзе песня і танец — гэта запісаны ў інтанацыях, мелодыцы, рытмізаваных рухах і г.д. хранатып дадзенага этнасу.

Пераход ад этнасу да нацыі не з'яўляецца аднамомантавым працэсам; паміж этнасам і нацыяй існуюць прамежкавыя, пераходныя формы. У якасці такога прамежкавага этапу можна выдзеліць перыяд узнікнення, фармавання і існавання старажытных княстваў. Старажытныя княствы — гэта напалову дзяржаўныя, напалову этнічныя ўтварэнні, для якіх характэрна наяўнасць больш высокай ступені інтэграцыйных сувязяў і адпаведна больш высокай ступені самаарганізацыі. Княства як этнадзяржаўнае ўтварэнне ёсць пачатковым элементам нацыяўтваральнага працэсу. Дадзеная роля падобнага ўтварэння абумоўлена перш за ўсё тым, што тут упершыню ўзнікае даволі добра акрэсленая сістэма іерархічных сувязяў, больш складаная і больш разгалінаваная. Упершыню вызначаецца інтэгруючая роля гарадоў, значэнне якіх у нацыяўтваральным працэсе ўвесь час будзе ўзрастаць. Дзякуючы пашырэнню інтэграцыйных сувязяў (горад якраз і ёсць тым месцам, дзе адбываецца абмен) узнікае якасна новая сістэма камунікацыі — пісьмовы тэкст. Цікава адзначыць, што пісьмовы тэкст ёсць перадусім хронікай (летапісам), гэта новая іпастась хранатыпу дадзенага этнасу ці нейкай яго часткі. Толькі на гэты раз хранатып аказваецца разамкнёным: ад цыклічнай мадэлі свайго існавання этнас пераходзіць да часава-лінейнай мадэлі гістарычнага спраўджвання і самазацвярджэння.

Істотным момантам з'яўляецца тут тое, што этнас ці нейкая яго значная частка ўступае ў перыяд узаемастасункаў з іншымі этнасамі ці часткамі гэтых іншых этнасаў, — ва ўзаемастасункі часта варожыя, аб чым і сведчаць летапісы.

Сэнс гэтых узаемастасункаў — у гістарычным самазацвярджэнні этнасу і будучай нацыі. Гэта гераічны перыяд у гісторыі ўзнікнення нацыяў, які звычайна авеяны рамантыкай доблесці, велічы. У пэўнай меры можна сцвярджаць, што нацыя пачынае ўсведамляць сябе ў гістарычна адметных асобах, з якімі звязаны найбольш істотныя моманты яе першапачатковай гісторыі.

Працэс умацавання нацыі звычайна працякае ў дзяржаўна-эканамічных формах, якія творыцца ёй самой. Змест гэтых працэсаў палягае ва ўсё большай інтэграцыі нацыі, ушчыльненні сувязяў, інтэнсіфікацыі абменных працэсаў, у сацыяльнай стратыфікацыі нацыянальнага грамадства і адначасова больш ці менш жорсткай яго іерархізацыі. Але ўсё гэта тычыцца толькі моманту фізічнага нараджэння і існавання нацыянальнага ўтварэння.

Сапраўднае ж, не фізічнае, а духовае нараджэнне нацыі неабходна звязаць з узнікненнем Нацыянальнага тэксту і з творчымі асобамі, якія твораць гэты Тэкст.

Пад Нацыянальным тэкстам будзем разумець любую семантычную структуру, у якой адбіваецца светапогляд, менталітэт і характар дадзенага народа (нацыі). Такім чынам, Нацыянальны тэкст утвараецца не толькі паэтычнымі ці празаічнымі тэкстамі, але і музычнымі творамі, творамі жывапісу, архітэктуры і г.д. Нацыянальны тэкст ёсць найвышэйшай праявай творчага нацыянальнага духу, крэатыўных здольнасцяў нацыі. Ён утварае культурную прастору жыццядзейнасці нацыі. У ім жа акумулюецца творчы гістарычны, культурны і сацыяльны вопыт нацыі; і ў кожнай сваёй новай генерацыі нацыя мае магчымасць самааднаўлення праз прачытанне гэтага Тэксту.

Адной з галоўных першапачатковых функцый Нацыянальнага тэксту з'яўляецца сакралізацыя і асвячэнне факту нараджэння і існавання народа-нацыі, факту гістарычнай мэтазгоднасці яго ўзнікнення і існавання. Сама ж сакралізацыя ў першую чаргу адбываецца праз акт творчасці Нацыянальнага тэксту, які і ўвідавочвае, што нацыя валодае містычнай здольнасцю творчасці, якая надалей будзе разгортвацца ў здольнасць тварыць Гісторыю.

Гістарычна-творчы аспект з'яўляецца адным з найбольш істотных для існавання нацыі. Дзеля выканання сваёй гістарычнай місіі нацыя творыць Дзяржаву. Дарэчы адзначыць, што акт стварэння дзяржавы таксама можа ўсведамляцца як сакральны. Асабліва гэта тычыцца тых нацыяў, для гісторыі якіх не характэрны этап працяглага этнічна-культурнага развіцця.

Але найбольш тыповым, зразумела, з'яўляецца шлях этнічна-культурнага развіцця праз этнічную кансалідацыю, ускладненне ўнутры этнічных сувязяў, іх іерархізацыю, праз стварэнне Нацыянальнага тэксту і, нарэшце, — Дзяржавы.

Са стратыфікацыяй нацыянальна-культурнага жыцця і іерархізацыяй сувязяў звязана ўзнікненне нацыянальнай самасвядомасці. Гэта звязанасць тлумачыцца тым, што ў слаба іерархізаваным грамадстве яшчэ не ўзнікае асобы як такой, а самасвядомасць ёсць перадусім функцыяй асобы. Тое, што ў заходняй навуковай літаратуры называецца «этнічнай ідэнтычнасцю», ёсць, на нашу думку, прадформай нацыянальнай самасвядомасці ці яе недыскрэтнай, сінкрытычнай формай. Асноўным утваральным прынцыпам гэтай формы з'яўляецца прынцып кантрастнасці «мы — яны», «свае — чужыя». Для нацыянальнай жа самасвядомасці галоўным фармуючым прынцыпам з'яўляецца прынцып тоеснасці, аўтэнтычнасці асобы ці проста чалавека як прадстаўніка менавіта *дадзенага* этнасу-народа-нацыі. Праз гэтую аўтэнтычнасць ён пачуваецца суб'ектам і спадкаемцам нацыянальнай гісторыі і культуры. Праз гэтую аўтэнтычнасць ён набывае магчымасць пісаць і нават перапісваць Нацыянальны тэкст, робіцца сутворцам нацыянальнай культуры і жыцця. Галоўная праблема нацыянальнай свядомасці — гэта праблема творчасці, г.зн. працягу нацыянальнага жыцця, якая і вырашаецца на ўзроўні нацыянальна свядомай асобы, ці не вырашаецца, калі гэтыя асобы адсутнічаюць.

---

* хранатып (аўт.) — пэўная мадэль часу, праз якую выяўляюцца адметнасці розных этнакультурных утварэняў.

ЗНО
Проза

## ФОРМУЛЫ АСОБЫ

**Бясконцасць:**

**$(я_1+я_2)_1$, $(я_1+я_2)_2$, ..., $(я_1+я_2)_n$, дзе $n \to \infty$**
**$(я_1+я_2)_1$: снег і пясок;**
**$(я_1+я_2)_2$: лёд і туман;**
**$(я_1+я_2)_3$: сквапнасць і шчодрасць;**
**$(я_1+я_2)_4$: прыгажосць і пачварнасць;**
**$(я_1+я_2)_5$: манагамнасць і полігамнасць;**
**$(я_1+я_2)_6$: беларускі інтэрнацыяналізм і гэбрайскі сіянізм;**
**$(я_1+я_2)_7$: балет і бокс;**
**$(я_1+я_2)_8$: шахматы й штанга;**
**$(я_1+я_2)_9$: Радэн і Мухіна-"вэдээнгэшніца";**
**$(я_1+я_2)_{10}$: Джэймс Джойс і Джэк Лондан;**
**$(я_1+я_2)_{11}$: Джэсі Оуэнс і Бэн Джонсан;**
**і г.д.**

**Выводзім формулу:**

$$\sum_{n=1}^{\infty} (я_1+я_2)_n = Я$$

**Я — нашая бяда, нашае шчасце, нашыя шчасце й бяда разам.**
**... я < цябе;**
**... я > цябе;**
**... я < Вас;**
**... я > Вас;**
**... я ў Я ≠ мы ≠ МЫ;**
**... я = Я = мы = ЁН;**
**... ЁН — усяго толькі ён.**
**... Я ў я — нашая адвечная блізкасць.**
**... я ў Я — нашая бясконцая далячынь.**
**Жыццё адно — другога не будзе.**
***Жыццё адно — другога не будзе.***
**Спяшай адсмакаваць.**
**Няўжо я памру — і пасля мяне нічога не застанецца?..**
**... я і яна;**
**... я і ЯНА;**
**... ЯНА і я;**
**... Я і ЯНА!**
**... я і Бог,**
**... БОГ і я.**
**... я ў Богу;**
**... Бог ува мне.**
**Кожнае «я» ўва мне ці ж мае свайго Бога?**
**Але ж Бог дазваляе жыць ува мне кожнаму «я»?**



Алесь АСТАШОНАК



# НЯЎЖО Я ПАМРУ?..

## РЭПЕТЫЦЫЯ

### *Вопыт тэатра абсурду*

— Гэты піжон, гэты гліст у фраку, гэты высмактаны з пальца блазен ратуе становішча? Адсутнасць думкі па мізансцэнах не расставіш. Ты што, ачмурэў?
— Ён нас заводзіць.
— Мы што, трусы падвопытныя, каб ён нас заводзіў?..
— Удзень з ліхтаром шукаем чалавека...
— Не туліся да сцяны.
— Туліся.
— Ты ведаеш, чым гэта канчаецца?
— У яго спіна не тлустая...
— І было б каму заводзіць!
— Што тут заводзіць — п'есы ж няма.
— Дык я вам пра паддонне. Інакш нічога не ўратуеш.
— Тло.
— А што ты хацеў? Які аўтар, такая і п'еса.
— Вось я ведаю п'есу...
— Чыю? Дзе яна?
— Аднаго маладога чалавека. Пішацца...
— Пінжак?
— Спіна.
— Я бачу плямы...
— Трэба, каб: сусвет — цераз космас.
— Насусвецішся тут: учора нажлукціліся, як свінні гразі.
— А ты не будзь... свіннёю.
— На ферме?
— Будан пабудуй. Я вось сабе пабудаваў.
— Маўчы ты са сваім буданом!..
— Разумееце, гэта як жоўты маянэз.
— Лэйба...
— Сто грамаў перад выхадам — перадумова пераўвасаблення. Але не болей. Сто.
— Я — заўсёды...
— Маналог выкліча цікавасць сваёй празрыстасцю.
— Цяпер ужо штампы — штампы...
— Навошта піць атруту? Сталяр жа не б'е малатком па пальцах. А мы па галаве — б'ём.
— Сто грамаў... мажліва, надта часта... у лепшым выпадку, сто разоў...
— Катэгорыя... Геаметрыя...
— Тут і гумар...
— І тым самым канцом па тым самым пачатку. І тым самым пачаткам па тым самым канцы!
— Скразная драматургія.
— Усё роўна — канфлікту няма. Нуль канфлікту.
— Нуль — велічыня бязмежная...
— Чайнік кіпіць...
— А ў яго спіна і праўда не тлустая...
— Я за штуку і ў дзежку з фекаліямі нырца буду даваць. Даў нырца — штука, даў нырца — штука.
— Файны назоў для п'есы: «Дзежка з інферналіяй»...
— У Бэкэта з Іянэска менш складана.
— Насарогі!.. Суслікі...
— А гэтыя бабы ўсё яшчэ шпалы цягаюць?..
— Ён нашмат большы рэзанёр, чым мы думалі...
— Будуюць усё, будуюць... Панаставілі скрынак з катухамі, а зайсці няма да каго...
— Брат, разумееш, брат, які яго зрабіў, яго ж і заразае — Бэкэт тут падшыванец.
— Які там Бэкэт? Камсамол Касавубу...
— Не магу зразумець, чаму ён пастаянна ходзіць з валаском у вуху?..
— Я ж вам кажу: чайнік кіпіць.
— Мне там мама бутэрброды з сырам загарнула...
— Квадрафоніка прасторы...
— Галава баліць — хоць вешайся.
— А ў мяне ў страўніку — выпаленая пустэльня...
— Ты разумееш, яна нават на ягоны дзень нараджэння не прыехала. Разумееш, нават на дзень нараджэння!
— Гэта не абсурд. Вось вам сітуацыя. Стукаюся ў дзверы да чалавека. Стукаюся — і ніяк не магу дастукацца. Закрычаць хочацца: «Адчыні!» Не вытрываўшы, крычу...
— У гэтай п'есе ўсе жывуць у акварыуме — вось дзе ключ...
— Не адчыняе. Глухі. І дзвярэй жа няма, як збоку зірнуць. У адным пакоі сядзім.
— Кропля логікі ў абсурдным свеце...
— Табе заваркі яшчэ даліць?
— Дзякуй. Уяўляеш: заходзіць ён да міністра, да гэтага плюгаўца, сам за яго вышэйшы, а сцелецца — ніжэй за дзвярную ручку...
— Шызафрэнізатар.
— Вось табе сюжэт для п'есы. Малады шафёр, у якім-небудзь райцэнтрыку Узнёску, выдумляе пра свае сустрэчы з футбалістамі з Масквы, на вайсковай службе ў Нямеччыне... ГСВГ... Каплічны, Багрыч...
— Войніч...
— Не, гэта мастак.
— Плача з-за любае дзяўчыны, што ўтапілася... А тае й не было ніколі. І Нямеччыны не было. Ён у Кляпцах служыў, пад зямлёю. Расказвае, як у нямецкіх падводнікаў быў, гарачы шакалад піў... Ну навошта выдумляе?
— Жыць сумна...
— Ты ведаеш, чым гэта канчаецца?
— Ты мне пачатак лепш раскажы. З пачатку ўсё пачынаецца...
— А што ты дзівішся, што ён да гэтага цвеляка ўваходзіць ніжэй гэтай самай... дзвярной ручкі?.. Ён жа як фантан: трэба піць, а ён вылівае...
— Чытаю ўчора, зазірнуў выпадкова ў гэтыя ягоныя «СНІПы»: «У залежнасці ад метаду інфільтрацыі і кшталту грунтоў хуткасць прасочвання мяняецца ў вельмі шырокіх межах. Найбольшыя хуткасці дасягаюцца на шведскіх водазаборах...» Як яны жывуць?..
— Не, ён як Карлсан: замест таго, каб жыць, як усе, у доме, жыве на даху. Дзе тут што людскае паставіш?..
— Размова з шуфлядаю.
— З куфрам.
А ты ўяўляеш: ставім залітаваную Біблію?..
— Дэфларацыя грунту...
— Я ж табе яшчэ раз кажу: якія ў нас насарогі? Суслікі. Шмакадзяўкі...
— Ты ўвесь нейкі разламаны.
— Тэатр перарабляе не чалавека. Тэатр перарабляе некаторых людзей. І толькі. У яго выбарная скіраванасць.
— А навошта ўсё гэта?
— Каб не проста сунуцца па невядома якой дарозе. Ці то ўперад, ці то назад, ці то некуды ўбок...
— Ці то, ці то, ці то.
— То ці, то ці, то ці.
— Оціт, оціт, оціт.
— Ціцо, ціцо, ціцо...
— Пастаў чайнік, я табе кажу...
— А калі мы не проста жывёлы?..
— Стары, мы сапсавалі п'есу. Страціўся канфлікт, знікла дынаміка.
— У жыцці ніколі не бывае драматургічных размоў.
— Усё залежыць ад стану...
— А ён, разумееш, б'е яе і б'е.
— Тактакішвілі...
— Ты чаму ў ярмолцы ходзіш? Лосеў...
— А калі ты раптам разбярэшся, і ісціна... ісціна здасца табе страшнай, жудаснай, невыноснай, нясцерпнай? Калі ісціна не выйсце, а тупік?
— Часам, некалькі дзён у годзе, я думаю так. Але, скажам, трыста дзён мне проста няма калі думаць пра гэта — я жыву. Я разумею, што ёсць, напэўна, рэчы ў нас, якія могуць лёгка разбурыць усю нашую філасофію. Але жыву я іншымі рэчамі, і іх ува мне нашмат болей...
— Трэба праверыць пра шчасце — традыцыйнае рашэнне.
— Правінцыялізм не такі страшны ў Прапойску, як у Маскве. Таму ўсе печкі прыбіраем...
— Можа, нам тут і пісуары расставіць і да нас адно ў ярмолках уваходзіць?..
— Мы жывём зусім не так, як іграем — няшчыра, брудна. А вось бацюшку верадь.
— А я вось вам скажу, што нават пасрэдны прафесійны актор на сцэне самым шчырым ладам спавядаецца. Ігра для яго — ачышчэнне.
— А вы ўпэўнены, што бацюшка не п'е, выйшаўшы з царквы, не гуляе, не падманвае?
— Мы не напаўняем нашы словы жыццём...
— А ён, разумееш, не, ты толькі ўяві: б'е яе і б'е.
— Я ж табе кажу: Тактакішвілі...
— А як іх гэтым самым жыццём напоўніць? Калі жыцця няма.
— Наш тэатр пабудаваны на адной акторскай тэхніцы. Гэта мёртвы дом.
— А я вось і з фекалій дом пабудую.
— Ды маўчы ты са сваім буданом!..
— Ведаеш, прыехаў я толькі што, ну заўчора, ад бацькоў... Такія ў іх прыемныя праблемы... Плот ставяць. А тут? Якая п'еса? Ну скажы мне, якая п'еса?
— Дык хто табе замінае? Стаў і ты плот, а не гарадзі з намі гэты гарод. Хоць наш гарод — гэта такі гарод... Штыкетнік спаміж градамі на браме цвінтара...

## АСАЦЫЯЦЫІ

Папяровы капялюш зачыненых дзвярэй майго маленства
Брудна-жоўтае ў пранізліва-сінім
Рамонак у сумёце
Гарбата ў попеле
Лёд у павуцінні
Цвіль саўганіны
Анёлы на пустцы
Маскарад. Алкаголік-нарколаг, ліхвяр-мантач, паэт-брокер. Сляпы рэжысёр. Рок-гурт: клавесін, домбра, цымбалы, тамтамы, трашчоткі й вусновы гармонік, вакал — тувінскія гарлавыя спевы, фанаграма — зудзенне камароў і сабачае выццё. Блазен: эскімос з пэйсамі, у бешмеце й чалме. Дастархан. Вогнішча. Бедуіны. Зулусы. Маланкі. Вада з брандспойтаў — струмянямі-рэкамі. Хакейны матч спаміж неграмі і піратамі. Торэадор на арэне з ашалелым гусём. Заратустра. Муэдзін на стрыптызы. Смеццявозы.
Пясчаны крыж
Адчай слімака
Скура мармуру
Каханне-смерць
Певень на дрэве
Трапяткі дрот ля чыстага балота
Ускраек нянавісці — глыбознасць спагады

P.S. Сумненне: а можа, усё гэта адзін толькі знак-след — іржавы ланцуг сталасці?

Паэзія

Мікола КУПРЭЕЎ

# МАЯ МУЗА



## МАЯ МУЗА

*Вечар*
*па гострым камені цягнуў мае ногі,*
*на апошніх дыханнях я збочыў з дарогі,*
*пад вярбою старою ўкленчыў,*
*яна вецце мне палажыла на плечы.*

*І ўжо не прасіў я ні ў чорта, ні ў бога —*
*прасіў у вярбы: «Дапажы да парога*
*дзедавай хаты... дзе тая сцежка?*
*дзе той палын на жытнёвым узмежку?»*
*Але дрэва ніколі нічога не скажа.*
*Ніякая зорка шлях не пакажа.*

*Лёг на карэнне, пад халоднай расою,*
*і жанчына прыйшла з бела-русай касою,*
*шапнула: «Я муза твая, я даярка на ферме.*
*Хочаш — са мною за вугал завернем,*
*напаю малаком, накармлю каласамі*
*і пойдзем у ночку цёплымі верасамі».*



*Я адпіхнуў яе кволай рукою*
*і камень штурхнуў услед за музай сваёю:*
*«Чаму не была ты са мною ўчора,*
*як ішоў я пад небам чорным*
*па гэтым камені, па гэтым балоце,*
*па калючым іржавым дроце?!»*

*Яна камень злавіла, у цыцках схавала*
*і там, за вуглом, рагатала:*

*«Глядзіце, глядзіце! Паўзе ад дарогі*
*праўдашукальнік, паэт бязногі.*
*Некалі я яго звала за поле,*
*я ўсё яму несла ў сваім прыполе:*
*хлеба акраец, рамонак і жаўранка з неба —*
*пад куст калінавы на расцярэбе»...*

*... Ішоў працьму гадоў па камені гострым*
*да музы-дзяўчынкі ў далёкі Востраў...*

*Спыняліся чорныя «Волгі», глядзелі старшыні,*
*грымела рок-музыка ў кожнай машыне...*
*У паўметры да роднага плоту ўранні*
*мне дзедаў сабака залізвае раны.*

## ДЫМ

*Чаму ж з майго коміна восенню*
*дым*
*пацягнула на ўсход,*
*калі вецер падзьмуў на захад?..*

*Сеў на ганку сасновым, старым*
*і думаю:*
*чаму ж з майго коміна дым...*
*і чаму гэты ганак ні разу,*
*як быў малады і сасновы,*
*не рыпеў пад тваімі нагамі?..*

*Але чаму з майго коміна дым...*
*І ўспомніў:*
*у печ былі кінуты летам*
*лісты,*
*якія пісаў я табе ў дваццатым стагоддзі*
*на ўсход.*

* * *

*У 53-м альховы лісцік*
*на вейка твае маладзенькае ўпаў*
*ля драўлянага мосту...*

*Сёння вачамі прынік да зямлі*
*ля Сінаўскае высахлай Нячы —*
*шукаю ў нашай былой траве*
*твае вейка.*

*Між чарвякоў і казюрак*
*канца стагоддзя*
*знайшоў іржавую прыколку,*
*счарнелы значок камсамольскі,*
*парахню ад алоўка,*
*якім я тады напісаў:*
*«Уздыхнулася лёгка»...*

*Жалезабетонны мост над нічым.*
*Толькі трава — з дзірвану таго самага.*
*А ў траве стаіць ветрык.*
*Твае дыханне.*

## У ВЯНОК МІХАСЮ РУДКОЎСКАМУ

*Ля Вострава ў далёкім сельсавеце*
*Калыша сум бярозавае вецце.*

*Над хатай кавалёвай ціха*
*плывуць высока бусел і бусліха.*

*Там пад вокнамі Рудкоўскай Лёдзі*
*журацца жбанкі на чорным плоце.*

*Там, у тым далёкім сельсавеце,*
*ляжыць зямля сырая на паэце.*

*Адзінокі конь ля берага блукае,*
*даўно не ржэ — нікога не гукае.*

*За рэчкай не гарыць касцёр начлежны,*
*знічка не ляціць у ссечаны алешнік.*



*Заплюшчу вочы... туманы клубяцца —*
*недзе там сляды Яго дымяцца...*

* * *

*... і нехта за мною ідзе*
*па камені, пяску і вадзе.*
*Ці ў радасці я, ці ў бядзе —*
*неадступна за мною брыдзе,*
*дыхае ў спіну і ўноч, і ўдзень.*

*Азірнуся паціху — нікога нідзе,*
*толькі нейчы хіснецца цень —*
*за дрэва схаваецца, за пляцень*
*і чорнай рукой на мяне расце.*

*І біў я па чорнай руцэ —*
*а рукі той няма нідзе.*
*Зноў па камені, пяску і вадзе*
*бягу і іду — ён бяжыць і ідзе.*

*Раптам на нейкай вярсце,*
*дзе нішто не расце, не цвіце,*
*стаў, азірнуўся — нікога нідзе.*
*Зноў уперад ступіць хацеў —*
*ззаду нехта бразнуў кляшчамі касцей...*

*Прачнуўся. Ажно ўспацеў...*
*За вокнамі ранне расце.*
*Каровы мычаць. Узыходзіць дзень.*
*Певень чырвоны ляціць за пляцень.*
*Па ваду маладая жанчына ідзе —*
*Прыгожа калыша свой цень...*

## АПОШНЯЯ ВЯРТАННЕ

*Прысела хатка адпачыць*
*ля старой Варшаўскае дарогі.*
*На саламяна-травяным плячы*
*сумуе месячык двухрогі.*

*На скошаных дзвярах замок*
*з эпохі Жэчы Паспалітай.*
*Разбіты перунамі чыгунок*
*чарнее ля трухлявага карыта.*

*З зямлі пад месяцам блішчыць*
*ад медаля бляшаная калодка.*
*Пад сцяной — на сонцы і дажджы*
*стамлёная*
*каса-літоўка.*

*Пад сухою вішняй стол,*
*пад ім — зламаная падкова,*
*вокладкі — Купала і Талстой,*
*павуціна ў шклянцы Малянкова.*

*Я з гэтай шклянкі піў!*
*Тут чытаў Купалу і Талстога,*
*Гэтаю касой касіў*
*ля бярозавага лесу маладога!..*

*Дошкамі забітае акно.*
*Пастукаў ціха... Не азвецца гаспадыня.*
*Дачка яе імклівым птушанём*
*не выляце на ганак, не абдыме...*

*Ля ўпалых веснічак стаю,*
*не слухаю, не бачу ўжо нічога.*
*Пакінуў месяц мілую страху.*
*Іду паціху на дарогу.*

## ЖАНЧЫНА

*Вачамі пазвала пад дрэва густое,*
*абняла, цалавала,*
*пайшла з-пад дрэва на свой падворак,*
*паклікала пеўня, а куры за ім,*
*сыпанула ім проса з падолу,*
*які трымала высока ў руцэ,*
*агаліўшы белыя ногі,*
*знайшла ў крапіве пад сцяною*
*маленькую ластаўку,*
*пасадзіла назад у гняздо,*
*зноў пад дрэва прыйшла,*
*цалавала;*
*смеючыся, парвала на шыі каралі,*
*кінула ўверх —*
*расцвілі ў небе зоркі,*
*адштурхнула, шапнула: «Ідзі».*



# ХРЭСТАМАТЫЯ ПА ФІЛАСОФІІ

ЗНО
Катэдра

У Беларускім культурна-адукацыйным цэнтры пад агульнай рэдакцыяй доктара філасофскіх навук Уладзіміра Конана і кандыдата філасофскіх навук Рыгора Грудніцкага падрыхтавана да друку «Хрэстаматыя па філасофіі». Укладальнікі Анатоль Сідарэвіч і Лявон Баршчэўскі.

Змест хрэстаматыі склалі тэксты (пераважна фрагменты артыкулаў ды кніг) больш як пяцідзесяці мысляроў, пачынаючы з Платона і Арыстотэля і заканчваючы сучаснымі беларускімі філосафамі Уладзімірам Конанам і Вячаславам Сцёпіным. Тэксты з розных моваў перакладалі Рыгор Грудніцкі, Ян Пятроўскі, Уладзімір Колас, Лявон Баршчэўскі, Галіна Булыка, Алёна Сцяпанава, Валянцін Акудовіч.

На пытанне «ЗНО», скуль узнікла ідэя хрэстаматыі, Анатоль Сідарэвіч адказаў:

— З практычных патрэбаў. Ліцэй, які працуе пры Цэнтры, павінен уключаць пэўныя «ліцэйскія» дысцыпліны. Дзеці вывучаюць асновы рэлігіязнаўства, правазнаўства, паліталогіі, логіку і ўводзіны ў псіхалогію. Натуральна, што гэты цыкл павінны завершваць уводзіны ў філасофію.

Вядома, такога падручніка няма. Да таго ж падручнік — рэч небяспечная. Са свайго студэнцкага вопыту ведаю, што студэнт, не чытаючы філасофскіх твораў, катэгарычна мяркуе аб поглядах філосафа на падставе знаёмства з падручнікам. Таму найлепшы спосаб навучання — гутарка па прачытаных тэкстах філосафаў. Асноўная задача нашых «Уводзін у філасофію» — пазнаёміць з філасофскімі катэгорыямі і праблематыкай філасофіі праз яе гісторыю — ад Платона да Сцёпіна.

Як былы студэнт аддзялення філасофіі, магу засведчыць, што сур'ёзных моўных пытанняў пры перакладзе не бывае. Іх прыдумалі людзі з пэўным выхаваннем. Для вучняў Івана Мікалаевіча Лушчыцкага (Мікалая Крукоўскага, Уладзіміра Конана, Вячаслава Шалькевіча і ўжо, на жаль, нябожчыкаў Альберта Бірылы ды Міхася Іоські) праблем тут не было. Замест таго, каб тэарэтызаваць і выдумляць праблемы там, дзе іх няма, лепш узяцца за канкрэтную працу... Мы са спадаром Баршчэўскім знайшлі тэксты і людзей, якія ведаюць мовы і пазбаўленыя комплексу непаўнацэннасці. Упэўнены, што гэтай хрэстаматыяй будуць карыстацца студэнты ВНУ, як прыходзяць яны да нас у ліцэй слухаць курс лекцый па логіцы.

Дарэчы, ніякіх моўных праблем з тэрміналогіяй логікі ў нас таксама не ўзнікала, як і з тэрміналогіяй рэлігіязнаўства ці паліталогіі.

Моўныя праблемы выдумляюць людзі, якія хацелі б трымаць нас у глухім катуху цывілізацыі.

* * *

Падборка тэкстаў, што прапануе «ЗНО», у нейкім сэнсе дае ўяўленне пра хрэстаматыю, якая, спадзяёмся, неўзабаве пакладзецца на пачатак вывучэння філасофскіх дысцыплін у беларускіх гімназіях ды ліцэях.

## ПРАДМОВА

Філасофія ўзнікае тады, калі чалавек пачынае ўсведамляць факт, што апроч свету «відочных рэчаў» ёсць яшчэ свет рэчаў невідочных. Па-за тым, што бачыць вока, ёсць яшчэ і тое, што бачыць розум. Гэты свет спасцігальных праз розум ("інтэлігібельных") рэчаў выяўляе сябе як свет чалавечых жаданняў, уяўленняў, вобразаў, ідэалаў — свет ідэяў.

Філасофствуе не той, хто думае пра штосьці «важнае» — пра сэнс жыцця, лёс, дабро, а той, хто ведае пра існаванне «свету ідэяў», адрознівае яго ад «свету рэчаў» і можа пачаць кантактаваць, мець зносіны з ім. Навуку гэтую можна здабыць толькі пабываўшы вучнем у тых, хто ведае туды дарогу — у саміх філосафаў. Гэтая хрэстаматыя і складзеная дзеля таго, каб дапамагчы маладому чалавеку ўвайсці ў гэты «пазалюстраны свет», свет «выяўленых існасцяў».

Ахарактарызуйма коратка некаторыя сучасныя ўяўленні пра філасофію, што павінны раскрыць сённяшнюю сітуацыю і, магчыма, падштурхнуць да пэўнага жыццёвага самавызначэння.

Філасофія ўзнікла як спроба рацыянальнага, г.зн. заснаванага на ўласным роздуме, растлумачэння жыцця чалавека і свету. Вытокам яе была крытыка агульнапрынятых меркаванняў, якія лічацца слушнымі; але яны грунтуюцца на думцы, а не на роздуме. Філасофія ўзнікае як радыкальная крытыка ўяўленняў, заснаваных на аўтарытэце «традыцыі», а таксама рэлігійных догмаў і ўяўленняў.

Філасофія як штосьці адрознае ад тэалогіі (Theos — Бог, logos — слова, навука) мае пачаткі ў Грэцыі ў VI стагоддзі да н.э. Яе сутнасць упершыню была выказана Сакратам, а пасля рацыянальна аформлена Платонам і Арыстотэлем. Калі Платон лічыў за мэту філасофскіх шуканняў пошук невідочнага боку рэчаў —"існасцяў", дык Арыстотэль, як і належыць вучню, не пагаджаўся з настаўнікам і з дапамогай філасофскіх сродкаў шукаў таксама «першапрычыны» быцця. Другі перыяд развіцця філасофіі, ад XI да XIV стагоддзя, прайшоў пад уплывам царквы: тут яна была фактычна паглынута тэалогіяй. Але і гэты час даў шэраг бліскучых філосафаў, сярод якіх узгадаем толькі Тамаша Аквінскага, аўтара «Сумы тэалогіі», створанай дзеля сцвярджэння праўдзівасці хрысціянскай рэлігіі праз розум, а не пачуццё. Трэці перыяд — пачынаючы ад XVII стагоддзя і да нашага часу — знаходзіцца пад уплывам навукі. Сучасная філасофія пачынаецца ад Рэнэ Дэкарта, які лічыў бясспрэчным толькі існаванне сябе самога і сваіх уласных думак: «Cogito ergo sum» ("мыслю, значыць існую"). Менавіта ён заснаваў рацыяналізм як універсальны метад пазнання рэчаіснасці, які грунтуецца на розуме.

Дваццатае стагоддзе занятае тым, што вуснамі сваіх філосафаў увесь час імкнецца пераадолець, радыкальным чынам раскрытыкаваць гэтую светапоглядную арыентацыю Р.Дэкарта. Гэта звязана найперш з «дзівацтвамі» сучаснае навукі, а з іншага боку — з абмежаванасцю колішніх формаў «класічнага рацыяналізму». Менавіта дваццатае стагоддзе выявіла прысутнасць такога кола праблем, спектр якога практычна невычарпальны. Адна з гэтых праблем — праблема чалавека. Яе разгляд непазбежна закранае праблемы быцця, космасу, прыроды, жыцця і г.д. Напачатку Артур Шапенгаўэр, а пасля Фрыдрых Ніцшэ з дапамогай чыста філасофскай абстракцыі фармулююць думку пра тое, што чалавек напэўна выпадае з шэрагу стварэнняў прыроды. Ён адметны сваёй эксцэнтрычнасцю і зусім не робіць уражання вяршыні тварэння.

Наступ на розум працягваў Зігмунд Фройд (Фрэйд), які выказаў меркаванне, што ў чалавеку існуе не толькі «ўсведамленне розуму» — «ego», але і «несвядомае» «id», і «над» — «звышсвядомае» — «super ego».

Сучасная навука наблізілася да раскрыцця найважнейшых таямніц прыроды і, разам з тым, выявіла новую бездань неспасцігальнага. Часам выказваецца меркаванне, што навука вядзе чалавецтва непраўдзівай дарогай. Уяўленні пра чалавека разумнага аспрэчваюцца. Адзін з самых аўтарытэтных філосафаў XX стагоддзя Марцін Гайдэгер невыпадкова адзначаў, што навука наўрад ці здолее раскрыць таямніцы чалавечага быцця, калі ўжо яна не здолела зразумець межы і сэнс свайго ўласнага развіцця. Навука страціла пафас пошуку першапачатковае цэласнасці, універсальнасці быцця. Духоўныя падмуркі навукі разбурыліся. Яна шмат у чым згубіла метафізічнае, філасофскае, маральнае вымярэнне. Таму ўзнікае недавер да сучаснага навуковага спасціжэння свету і чалавека, да тых перспектыў, якія яно стварае.

Катастрафічнае разбурэнне прыроднага асяроддзя, збядненне краявіду, нечаканае пашырэнне эпідэмій, што пагражаюць Зямлі спусташэннем, — усё гэта ставіць чалавека ў сітуацыю гранічна крытычную, калі ўзнікае адчуванне татальнае безабароннасці чалавечых жыццяў, мажлівае пагібелі ўсяго чалавецтва.

Філосафы абмяркоўваюць сёння не толькі праблему біялагічнай непаўнавартасці чалавека, але і яго псіхалагічнай надламанасці. Занепакоена асэнсоўваецца ўся чалавечая суб'ектыўнасць, уласцівы чалавеку свет волі, пачуцця, думкі... Ці не спараджае розум вар'яцтва? Ці не ў інтэлекце прычына дэфармацыі свядомасці? Ці не закладзены ў чалавеку пэўны невынішчальны разбуральны імпульс? Крытычнае стаўленне выклікае і гістарычны досвед чалавецтва ў XX стагоддзі. Людзі пакутліва перажываюць працэс адчужэння ад улады, уласнасці, навакольнага свету. Сацыяльная практыка паказвае, што тыя мэты, якія яны ставяць сабе, даюць нярэдка супрацьлеглыя вынікі. Створаныя імі арганізацыі, сацыяльныя і іншыя інстытуты выяўляюць сваю парадаксальную варожасць чалавеку. У гісторыі раз за разам паўстае пагроза таталітарызму, узнікае імкненне кіраваць усімі бакамі чалавечага жыцця.

Агульная культурная сітуацыя, якую выяўляе сучасная філасофія, можа быць выказаная словамі М.Гайдэгера: рэч не ў тым, каб вырашыць, «што рабіць», а ў тым, «як пачаць думаць». Гаворка ідзе найперш пра неабходнасць змены тыпу рацыянальнасці, пошук такога спосабу разважання пра чалавека і свет, які б не прычыніў ім шкоды, не пакінуў бы па-за ўвагай іх простую цэласнасць.

Свет прынцыпова адкрыты, нясконччаны, універсум сувязяў няпоўны; менавіта дзякуючы апошняму і магчымая свядомасць, якая сёння ўяўляецца як няпоўныя веды. Адсюль і адпаведныя ўяўленні пра чалавека. «Чалавек, — піша сучасны грузінскі філосаф Мераб Мамардашвілі, — не створаны прыродай і эвалюцыяй. Чалавек ствараецца. Ствараецца зноў і зноў без супыну. Ствараецца ў гісторыі, з удзелам яго самога, яго індывідуальных намаганняў. Чалавек — гэта таксама істота, узнікненне якой няспынна ўзнаўляецца. З кожным індывідам і ў кожным індывідзе».

Такім чынам, сучасная філасофія і культура грунтуюцца на тэзі , што паводзіны і жыццё чалавека рэгулююцца на перадумове няпоўных ведаў. Чалавек, кожны чалавек, выяўляючы сябе ў свеце, вымушаны сваімі намаганнямі, сабою «дабудоўваць» сітуацыю да паўнаты. Без гэтага варунку ніякае рацыянальнае дзеянне немагчымае. Гэтая адмова XX стагоддзя ад «натуралістычнай» арыентацыі фіксуецца як пераход ад свету навукі да свету жыцця. Мы называем гэта пераходам на пазіцыю «культуралагічнай арыентацыі».

Вызначым некаторыя рысы апошняй.

Па-першае, яна грунтуецца на прынцыпах суадноснасці: не чалавек і свет («аб'ект» і «суб'ект»), а чалавек у свеце або свет у чалавеку. Па-другое, яна мае на ўвазе прынцыповую адмову ад пабудовы адзінай універсальнай карціны свету, пераход на пазіцыі сістэмнага сітуацыйнага мыслення. Яе сутнасць — адмова ад пазіцыі абсалютнага суб'екта. У мысленні будуецца сітуацыя, якая фіксуе не толькі аб'ект, цікавы чалавеку, але і пазіцыю суб'екта як кропку неабсалютнага назіральніка. Сітуацыя фіксуе таксама спосаб іх дачынення, спосаб іх «гульнёвага» дапасавання.

Гэты акт немагчымы без адмысловага аналізу ўнутранае логікі канкрэтных гісторыка-культурных цэласнасцяў ("аўтаномных дыскурсіўных фармацый", паводле сучаснага французскага філосафа Мішэля Фуко), у якіх чалавек выяўляе сябе. Аднак што б чалавек пра сябе ні думаў, што б ён ні зразумеў, што б ні адкрыў, ні вынайшаў, чым бы ні быў захоплены, прастора, у якой ён так ці іначай паводзіць сябе ў сваёй гісторыі, сфармаваная не ім. Гэткім чынам, ідэі, веды і інш. «цэласнасці культуры», праз якія мы выяўляем сябе ў якасці суб'ектаў і аб'ектаў ведаў, — гэта ў той самы час тыя ўмовы, праз якія суб'екты ўпершыню ствараюцца: адначасна ў якасці прадуктаў і ў якасці агентаў культуры.

Тая ж дзейнасць, якой можна навучыцца з дапамогай філасофіі, ёсць дзейнасць рацыяналізацыі. У яе падмурку — асабістае намаганне чалавека ўпарадкаваць, надаць пэўную форму розным тыпам сваёй духоўнай дзейнасці — у тым ліку і не толькі навуковай. Гэтая асаблівая «арганізаванасць», «лагічнасць», якая можа паўставаць перад намі ў выглядзе ідэі, навуковага паняцця, мастацкага вобраза і г.д., супрацьстаіць ужо бесструктурнасці, неўпарадкаванасці, прынцыповай «невыяўляльнасці» хаосу свету і чалавека. Іначай чалавеку наканавана жыць у свеце беспарадку і абсурду, у свеце ірацыянальнасці...

Наша беларуская культурная і філасофская традыцыя дапамагае нам шукаць сябе ў духоўным досведзе чалавецтва, які не паддаецца ўпарадкаванню і спасціжэнню розумам і таму можа быць аднесены да ірацыянальнага. Заклікі Сулімы (Уладзіміра Самойлы) пра неабходнасць асабістых намаганняў кожнага дзеля фармавання беларускай нацыі, а таксама ідэі Ігната Абдзіраловіча (Канчэўскага) пра неабходнасць пошуку «ліючай формы» ў беларускай культуры чакаюць свайго лагічнага працягу ў наш асаблівы час.



Міхась ГУСАКОЎСКІ,
кандыдат філасофскіх навук.

# ТАМАШ АКВІНСКІ (1226 — 1274)

Філосаф вызначае, што першая філасофія ёсць веданне ісціны — і не якой-небудзь, а тае ісціны, якая з'яўляецца крыніцай усякае ісціны і якая адносіцца да першага пачатку быцця для ўсіх рэчаў: адкуль вынікае, што гэтая ісціна ёсць пачатак усялякае ісціны, бо парадак рэчаў у ісціне гэткі самы, як і ў быцці...

Ёсць нейкія ісціны пра Бога, якія перавышаюць усякую здольнасць чалавечае развагі, як, напрыклад, пра тое, што Бог трохісны і адзіны. Аднак ёсць нейкія ісціны, якіх можа дасягнуць і натуральная развага, як, напрыклад, пра тое, што Бог ёсць, што Бог адзіны і да т.п.: гэтыя ісціны пра Бога навочна даказалі і філосафы, якіх вяло святло натуральнае развагі...

Каб пазнаць тое, што развага здольная даведацца пра Бога, неабходна шмат што ведаць загадзя, бо разгляд амаль усяе філасофіі схіляе да пазнання Бога; з гэтае прычыны з частак філасофіі метафізіка, якая тлумачыць Боскае, павінна вывучацца ў апошнюю чаргу. Такім чынам, даследаванне згаданае Боскае ісціны можна дасягнуць толькі праз цяжкую працу і высілкі, і мала хто хоча ўзяць на сябе гэты цяжар з-за любові да ведаў, натуральную схільнасць да якіх Бог, аднак, уклаў у розум людзей (...). Таму Боская міласэрнасць выказала выратавальную прадбачлівасць, прадпісаўшы браць на веру і тое, што здольная даследаваць развага, каб такім чынам усе лёгка маглі быць далучанымі да пазнання Бога без сумнення і памылкі.

*Тамаш Аквінскі. Сума супраць паганцаў. Thomas Aquinas. Summa contra gentiles seu de veritate catholicae fidei. Taurini, 1925. P. 1 — 4.*



# Рэнэ ДЭКАРТ (1596 — 1650)

Перш-наперш я хацеў бы высветліць, што такое філасофія, пачаўшы з найбольш звычайнага, з таго, напрыклад, што слова «філасофія» азначае заняткі мудрасцю і што пад мудрасцю маецца на ўвазе не толькі



разважлівасць у справах, але таксама і дасканалае веданне ўсяго таго, што можа спазнаць чалавек: гэта і веды, якія даюць накірунак самому жыццю, спрыяюць захаванню здароўя і адкрыццям ва ўсіх навуках. А каб філасофія стала такою, яна з неабходнасцю павінна быць выведзеная з першых прычын так, каб той, хто імкнецца авалодаць ёю (што, уласна, і азначае філасофстваваць), і пачынаў з даследавання гэтых першых прычын, якія называюць пачаткамі. Для гэтых пачаткаў існуюць два патрабаванні. Па-першае, яны мусяць быць такія выразныя і самі па сабе відавочныя, каб пры ўважлівым разглядзе чалавечы розум не мог сумнявацца ў іх сапраўднасці; па-другое, пазнанне ўсяго астатняга павінна залежаць ад іх так, што хоць пачаткі і маглі б быць пазнаныя па-за пазнаннем іншых рэчаў, але, наадварот, гэтыя апошнія не маглі б быць пазнаныя без ведання пачаткаў. Пры гэтым неабходна зразумець, што тут пазнанне рэчаў з пачаткаў, ад якіх яны залежаць, выводзіцца такім чынам, што ва ўсім шэрагу высноў няма нічога, што не было б выразна і цалкам зразумелым. Па-сапраўднаму цалкам мудрасцю валодае адно толькі Бог, бо ён дасканала ведае ўсё. Але і людзей можна назваць больш ці менш мудрымі ў адпаведнасці з тым, як шмат ці як мала яны ведаюць ісцін пра найбольш значныя рэчы. З гэтым, я мяркую, будуць згодныя ўсе дасведчаныя людзі.

Пасля я прапанаваў бы абмеркаваць карыснасць гэтай філасофіі і разам з тым даказаў бы значнасць пераканання, што філасофія (калі ўжо яна распаўсюджваецца на ўсё даступнае пазнанню чалавека) адна толькі адрознівае нас ад дзікуноў ды варвараў і што грамадзянскі і адукацыйны ўзровень кожнага народа тым вышэйшы, чым лепш у гэтым народзе філасофствуюць; таму няма большага дабра для дзяржавы, як мець сапраўдных філосафаў. Апроч таго, кожнаму чалавеку важна не толькі быць блізка да тых, хто адданы душою гэтай навуцы, але папраўдзе прысвячаць ёй самога сябе, падобна да таго, як падчас хадзьбы карыстацца ўласнымі вачыма і праз іх атрымліваць асалоду ад фарбаў і колеру, чым заплюшчыць вочы ды ісці за павадыром. Аднак і гэта ўсё-такі лепш, чым, заплюшчыўшы вочы, адмаўляцца ад усялякага староннягa кіраўніцтва. Сапраўды, хто праводзіць жыццё без вывучэння філасофіі, той шчыльна заплюшчыў вочы і не турбуецца іх расплюшчыць; тым часам задавальненне, якое мы атрымліваем ад сузірання рэчаў, немагчыма нават параўнаць з задавальненнем, якое нам дае пазнанне таго, што мы знаходзім дзякуючы філасофіі. Да таго ж нашым звычаям і ладу жыцця гэтая навука неабходная больш, чым карыстанне вачыма для вызначэння накірунку нашай хадзьбы. Неразумныя жывёлы, якія мусяць клапаціцца толькі пра сваё цела, няспынна толькі і занятыя пошукамі ежы для яго: чалавек жа, галоўнай часткаю якога з'яўляецца розум, перш-наперш павінен дбаць пра сваю сапраўдную ежу — мудрасць. Я цвёрда перакананы, што шмат хто абавязкова зрабіў бы гэта, калі б толькі спадзяваўся на поспех у гэтым і ведаў, як гэта здзейсніць. Ніводзін, нават самы апошні чалавек не бывае прыкуты да аб'ектаў пачуццяў так, каб калі-небудзь не павярнуцца ад іх да чагосьці лепшага, калі б ён часта і не ведаў, як выглядае гэтае лепшае. Тыя, да каго больш прыхільны лёс, у каго зашмат здароўя, пашаны ды багацця, не больш, чым іншыя, незалежныя ад такога жадання; я нават упэўнены, што яны мацней за іншых сумуюць па дабротах больш значных, чым тыя, якімі яны валодаюць. А як паказвае нават па-за святлом веры адзін прыродны розум, такое вышэйшае дабро ёсць ні што іншае, як пазнанне ісціны з яе першапрычын, гэта значыць мудрасць. Заняткі мудрасцю — гэта і ёсць філасофія. Паколькі ўсё гэта цалкам слушна, то пераканацца няцяжка ў тым, абы толькі слушна былі зробленыя ўсе высновы. Але ў сувязі з тым, што гэтаму перакананню супярэчыць досвед, які паказвае, што часта менш мудрыя і не гэтак правільна карыстаюцца сваёй развагай тыя людзі, для якіх філасофія — найпершы занятак, чым тыя, хто ніколі сябе гэтаму занятку не прысвячаў, я хацеў бы тут коратка выказаць, з чаго складаюцца тыя навукі, якімі мы цяпер валодаем, і якога ўзроўню мудрасці гэтыя навукі дасягаюць. Першы ўзровень уключае ў сябе толькі тыя паняцці, якія дзякуючы ўласнаму святлу гэтак выразныя, што могуць быць набытыя і без роздуму. Другі ўзровень ахоплівае ўсё, што дае нам досвед пачуццяў. Трэці — тое, чаму вучаць зносіны з іншымі людзьмі. Да гэтага можна далучыць, на чацвёртым месцы, чытанне кніг, але не ўсіх, пераважна тых, што напісаныя людзьмі, здольнымі даць нам добрыя павучанні: гэта як бы спосаб зносін з творцамі іх. Уся мудрасць, якою звычайна валодаюць, набытая, на мой погляд, праз чатыры гэтыя спосабы. Я не ўключаю сюды Боскага адкрыцця, бо яно не паступова, а за раз узнімае нас да беспамылковае веры. Аднак ва ўсе часы бывалі вялікія людзі, якія спрабавалі далучыць пятую ступень мудрасці, значна больш узвышаную і слушную, чым чатыры папярэднія: відаць, яны рабілі гэта выключна так, што знаходзілі першыя прычыны і праўдзівыя пачаткі, з якіх выводзілі тлумачэнне ўсяго даступнага пазнанню. І тыя, хто клапаціўся пра гэта, пераважна атрымлівалі імя філосафаў. Аднак, наколькі я ведаю, нікому не ўдалося шчасліва вырашыць гэтую задачу...

*Дэкарт Р. Пачаткі філасофіі. Descartes R. Oevres. T.VIII. Paris, 1912. P. 21 — 35.*

# Эдмунд ГУСЭРЛЬ (1859 — 1938)

Ад сваіх першых пачаткаў філасофія прэтэндавала на тое, каб быць дакладнай навукай, прычым навукай, якая б задавальняла найвышэйшыя тэарэтычныя патрэбы, а з рэлігійна-этычнага пункту погляду рабіла б магчымым жыццё, якое рэгулявалася б выключна рацыянальнымі нормамі. Гэтыя прэтэнзіі яна выказвала то больш, то менш энергічна, але ніколі цалкам ад іх не адмаўлялася. Не выраклася яна іх нават у часы, калі зацікаўленасць чыстай тэорыяй і здольнасці да яе, здавалася, занепадалі альбо рэлігійныя сілы абмяжоўвалі свабоду тэарэтычных доследаў.

Гэтых прэтэнзій да дакладнай навуковасці філасофія ні ў адну эпоху свайго развіцця не магла задаволіць. Таксама і ў апошнюю эпоху, якая пры ўсёй яе разнастайнасці і супярэчнасці доўжыцца ў досыць паслядоўным працэсе свайго развіцця ад эпохі рэнесансу да цяперашняга часу. Што праўда дамінуючая рыса сучаснай філасофіі палягае якраз на тым, што замест таго, каб наіўна падпарадкоўвацца спакусе філасофствавання, яна імкнецца хутчэй сцвердзіць сябе як дакладную навуку праз пасрэдніцтва крытычнай рэфлексіі, ва ўсё больш глыбінных метадалагічных даследаваннях. Але адзіным сапраўдным плёнам гэтых намаганняў было абгрунтаванне і самастойнае ўсталяванне дакладных прыродазнаўчых навук, а таксама новых, чыста матэматычных дысцыплін. Сама ж філасофія ў тым асаблівым сэнсе, што вызначаецца толькі цяпер, надалей не мела характару дакладнае навукі. Ужо нават сэнс гэтай адметнасці не знайшоў пэўнага навуковага апісання....

Гэткім чынам філасофія, згодна з сваёй гістарычнай задумай, самая вышэйшая і самая дакладная навука, яна, што паказвае нязбыўнае памкненне чалавецтва да чыстага і абсалютнага пазнання (і — што цесна звязана з гэтым — да чыстага і абсалютнага вызначэння вартасцяў і жаданняў), не здолела здабыць статусу праўдзівай навукі. Гэтая, што закліканая выконваць ролю настаўніцы ў вечнай справе рэалізацыі памкненняў людзей, увогуле не здольная навучаць — навучаць аб'ектыўна рэлевантным спосабам. Кант казаў, што нельга навучыцца філасофіі, а толькі філасофстваванню. Ці ж не ёсць гэта прызнанне ненавуковасці філасофіі? Усюды, дзе мае дачыненне навука, праўдзівая навука, магчыма вучыцца і навучаць, і ўсюды ў аднолькавым сэнсе. Бо нідзе навуковае навучанне не заключаецца ў пасіўным успрыманні чужога для розуму матэрыялу, усюды яно грунтуецца на ўласнай актыўнасці, на ўнутраным раскрыцці рацыянальных высноў, зробленых творчымі развагамі, згодна з законамі праўды і паслядоўнасці. Філасофіі немагчыма навучацца, бо ў ёй няма такіх аб'ектыўна зразуметых і абгрунтаваных высноў і — што ў сутнасці тое самае — бо ў ёй бракуе яшчэ дакладна вызначаных у паняццях і цалкам высветленых у сваім сэнсе праблем, метадаў і тэорый.

*Гусэрль Э. Філасофія як дакладная навука. Husserl E. Filozofia jako scisla nauka. Warszawa, 1992. S. 7 — 8.*

# Карл ЯСПЕРС (1883 — 1969)

Як актуалізуецца для нас гісторыя філасофіі — гэта падставовая праблема кожнага, хто займаецца філасофстваваннем, праблема, якая патрабуе канкрэтнага вырашэння. Філасофія пацвярджаецца і характарызуецца тым, як яна прымае сваю гісторыю. Можа нават часам здавацца, што праўда сучаснага філасофствавання выяўляецца не гэтулькі ў стварэнні новых падставовых паняццяў..., колькі ў новым гучанні, што мы можам пачуць у старых думках.

Чыста тэарэтычнага разгляду гісторыі філасофіі недасткова. З таго, што філасофстваванне ёсць практыка, вынікае для таго, хто займаецца гісторыяй філасофіі, пэўнае патрабаванне: тэарэтычнае стаўленне да філасофіі павінна набываць рэчаіснае аблічча праз жывое засваенне яе зместу з тэкстаў. Індыферэнтныя веды пра ідэі перашкаджаюць такому засваенню...

Таму заўсёды патрэбна імкнуцца спасцігаць думкі каля іх крыніц. Думкі гэтыя ёсць рэальнасць побыту чалавека, які ўсвядоміў у іх свой побыт і зразумеў самога сябе. Засваенне гісторыі філасофіі вымагае, відавочна, ведання паняццяў, але яго сэнс палягае на тым, каб удзельнічаць у жывой, узнёслай практыцы таго мінулага мыслення. Тое, якой глыбіні я дасягну, засвойваючы гэтыя гістарычныя крыніцы, вырашыць лёс самой маёй існасці. Знешнія праявы не ўяўляюць тут сабою нейкага ўлоўнага крытэрыю. Аўтэнтычнае мысленне жыве ў гісторыі, як таямніца, якая, аднак, можа раскрыцца кожнай разумнай істоце...

Гісторыяй філасофіі — у адрозненне ад гісторыі навук — немагчыма займацца пры дапамозе аднаго толькі інтэлекту. Тое, што ў нас слухае і што выходзіць з гісторыі нам насустрач, ёсць праўдзівасць чалавечай існасці, што раскрываецца ў мысленні.

Філасофская гісторыя філасофіі мае наступныя асаблівасці:

1. Аўтэнтычны сэнс гісторыі стварае тое, што ёсць вялікае, адзінае, непаўторнае. Гэта вялікія філосафы і вялікія творы даюць нам крытэрыі выбару таго, што ёсць істотнае. Уся праца над гісторыяй філасофіі служыць у рэшце рэшт іх дакладнаму разуменню...

2. Разуменне думак вымагае грунтоўнага вывучэння тэкстаў. Да філасофіі можна наблізіцца толькі праз разуменне, якое імкнецца спасцігнуць кожную дэталь...

3. Разуменне філасофіі вымагае ўспрыняцця яе ў перспектыве ўсеагульнай гісторыі. Гісторыя філасофіі як усеагульная гісторыя філасофіі павінна зрабіцца адным вялікім цэлым...

4. Нябачнае панаванне духу філосафаў. Філасофствуючы, мы жывём як бы ў пэўнай схаванай ад іншых, неаб'ектыўнай супольнасці: прыняцце ў яе ёсць патаемнае жаданне кожнага, хто займаецца філасофстваваннем. Філасофія не мае ніякага інстытуцыянальнага ўвасаблення, не канкурыруе з цэрквамі, дзяржавамі і рэальнымі супольнасцямі свету. Любая аб'ектывізацыя, стварэнне школ і сектаў для яе згубныя...

5. Перспектыва ўсеагульнай гісторыі ёсць варунак найбольш рашучага ўсведамлення ўласнай эпохі. Толькі на падставе досведу чалавецтва цалкам зразумелым робіцца тое, што мы можам выпрабаваць цяпер, а таксама тое, чаго мы ўжо сёння не можам перажыць і спазнаць, і тое, што менавіта сёння мы можам перажыць і спазнаць першы раз.

*Ясперс К. Пра маю філасофію. Jaspers K. Rechenschaft und Ausblick. Reden und Aufsatze. Munchen, 1951. S. 4 — 6.*

Пераклалі: Лявон БАРШЧЭЎСКІ, Рыгор ГРУДНІЦКІ, Уладзімір КОЛАС.

У гэтым нумары «ЗНО» - афорты Юрыя Якавенкі (г. Гродна) «Адам і Ева», «Адам».





*Рада «ЗНО»: Валянцін Акудовіч (адказны за выпуск), Алесь Разанаў, Ігар Бабкоў, Юрась Барысевіч*